

*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!*
*ФРАНЦІШАК БАГУШЭВІЧ*

# Наша слова





**Газета выходзіць з сакавіка 1990 года** **№ 10(344) 18 САКАВІКА 1998 г.**


## СВЯТА НАШАЙ ДЗЯРЖАЎНАСЦІ
### Дарагія суайчыннікі !

80 гадоў таму, 25 сакавіка 1918 года, была дроджана незалежнасць нашай дзяржавы — абвешана Беларуская Народная Рэспубліка !

Але ідэалы Свабоды, Дэмакратыі, Дзяржаўнасці былі корстка задушаныя бальшавіцкай Расеяй.

Сёння нашая краіна зноў ля небяспечнай мяжы ператварэння ў калонію Расеі.

Вы бачыце, чым больш нас "інтэгруюць" у Расею, тым горш мы жывем. Бо Масква імкнецца зноў захапіць Беларусь, каб рабаваць і карыстацца працай нашых людзей і пасылаць нашых хлопцаў ваяваць на Каўказ за нтарэсы крамлёўскай мафіі.

Мы стаім перад выбарам: або будзем жыць у вольнай і заможнай еўрапейскай краіне, або нас чакае паўжабрацкае існаванне на ўскрайку Расейскай імперыі.

**Віншуем Вас з 80-мі ўгодкамі Беларускай Народнай Рэспублікі !**

Урачыстае шэсце і мітынг
**22 сакавіка**
**12.00**
**Збор на пл.Я.Коласа**

## Пікет ад ТБМ

21 сакавіка з 11.00 да 15.00 гадзін у Менску на скрыжаванні пр.Ракасоўскага і вул Пляханава на пустэчы супраць міні-рынка "Серабранка" будзе выстаўлены дазволены ўладамі пікет з мэтай прыцягнення ўвагі грамадскасці да святкавання 80-годдзя ўтварэння Беларускай Народнай Рэспублікі.

Пікет ладзяць Сакратарыят ТБМ імя Францішка Скарыны і арганізацыя АГП Ленінскага раёна г.Менска.

Пікетчыкі маркуюць наладзіць продаж беларускай літаратуры і запіс у шэрагі ТБМ.

## Дарагія суайчынніцы і суайчыннікі !

Сардэчна віншуем усіх вас з галоўным нацыянальным святам беларускага народ — Днём Незалежнасці 25 сакавіка.

Сёлетняе свята асабліва ўрачыстае: мы адзначаем 80-я ўгодкі абвешчання "на свет цэлы" волі беларусаў мець сваю незалежную дэмакратычную дзяржаву. За два гады да канца тысячагоддзя добра відаць: менавіта 25 сакавіка 1918 года ў Менску адбылася галоўная падзея ўсяе тысячагадовае гісторыі нашага народа — утворана Беларуская Народная Рэспубліка.

У канстытуцыйных дакументах Рады БНР дакляраваліся дэмакратычныя каштоўнасці, гарантаваліся ўсе асноўныя правы чалавека, ахоўвалася права ўласнасці. Набывалі дзяржаўнае апірышча і гарантыю нацыянальна-культурныя правы беларускага народа. Беларуская мова ўпершыню пасля стагоддзяў каляніяльнага паняволення абвяшчалася дзяржаўнаю.Сімвалізавалі дэмакратычную краіну беларусаў старажытныя святыні — бел-чырвона-белы сцяг і герб "Пагоня".

Ідэалы БНР, хай не ўвасобленыя адразу, як марылася ўдзельнікам гістарычных рашэнняў 1918 года, выратавальна паўплывалі на лёс нашага народа ў XX стагоддзі. У выніку самаахвярнай барацьбы пакаленняў адраджэнцаў на Бацькаўшчыне і за яе межамі незалежная дзяржава Беларусь зноў зявілася на карце Еўропы. Але гэта выклікала шалёны супраціў імперскіх сілаў,якія робяць усё, каб знішчыць незалежную беларускую дзяржаву рукамі сваіх стаўленнікаў.

Сёння, калі ідэалы БНР у небяспецы, найлепш ушанаваць вялікі юбілей мы можам, згуртаваўшыся ў абароне незалежнасці Беларусі. Мы цвёрда верым: еўрапейская, заможная, дэмакратычная беларуская дзяржава XXI стагоддзя дасць магчымасць годнага жыцця ўсім сваім грамадзянам і будзе шанаванаю сяроду краінаў свету.

**Жыве Беларусь!**

*Прынята Соймам БНФ "Адраджэньне" 14.03.1998 г.*

## НА 80-Я УГОДКІ ВЕКАПОМНАГА АКТУ 25 САКАВІКА!

**СУРОДЗІЧЫ БЕЛАРУСЫ!**

Вітаем вас з найвялікшым беларускім нацыянальным святам 25 САКАВІКА - Днём абвешчання дзяржаўнай незалежнасці Беларускай Народнай Рэспублікі Актам 25 сакавіка 1918 году.

Сёлета, свята адзначаючы 80-я ўгодкі Векапомнага Акту 25 сакавіка, жадаем вам добрага здароўя, духовых сілаў, непахіснай веры ў ідэалы 25 сакавіка у нашым змаганні за аднаўленне дзяржаўнай незалежнасці Беларускай Народнай Рэспублікі - Беларусі.

Жыве беларускі народ у змаганні ! Жыве Беларусь !

Выканаўчы Камітэт
Каардынацыйнага камітэта беларусаў Канады

## Добры дзень, шаноўная рэдакцыя "НАШАГА СЛОВА"!




На днях выпадкова ўбачыў у старога школьнага сябра апошнія нумары газетаў "БЕЛАРУС", "ВЕСТКІ й ПАВЕДАМЛЕННІ" і часопіс "ПРАМЕНЬ". Гэтыя выданні выдаюцца беларускімі грамадскімі арганізацыямі ЗША і Канады. Усе матэрыялы ў іх друкуюцца па-беларуску і пранікнуты любоўю і павагай да нашай Бацькаўшчыны. Мне было вельмі прыемна, што людзі не забываюць Беларусь і на свае асабістыя грошы ў вольны ад працы час выдаюць беларускія газеты. І адначасова мне было вельмі прыкра і балюча за той жабрацкі стан у якім цяпер знаходзіцца беларуская мова на Беларусі. Таварыства беларускай мовы імя Ф.Скарыны не можа знайсці грошы на арэнду маленькага офіса і выданне газеты "НАША СЛОВА", а ў той час прэзідэнт разам са сваёй світай і сынам трацяць вялікія народныя грошы на шыкоўны адпачынак у Японіі. Упэўнены, што гэтай сумы хапіла б на добрую датацыю ўсім беларускамоўным газетам!

Хачу звярнуцца да чытачоў "НАШАГА СЛОВА" выпісвайце і падтрымлівайце нашую газету, не будзе беларускай мовы - не будзе Беларусі...

Алесь Чудзеніч, г.Менск.

## Шаноўныя суайчыннікі !

25 сакавіка 1918 года адбылася важная гістарычная падзея, якая прадвызначала далейшы лёс Беларусі. У гэты дзень у 3-й Устаўной грамаце Рады БНР Беларусь абвяшчалася вольнай і незалежнай дзяржавай. Упершыню за доўгія гады прыніжанасці і рабства беларусы атрымалі права на свабоду слова, друку, сходаў, забастовак, веравызнання, права на незачэпнасць асобы і памяшкання, права на свае нацыянальныя багацці, права на родную мову.

Гэты глыток свабоды стаўся гаючай вадой для знявераная народа, у якога адабралі гонар і імя, мову і краіну. Доўгая барацьба за незалежнасць прынесла свой плён. Знялося здзеклівае ярмо "Северо-Западного края", існаванне БНР не дазволіла бальшавікам уздзець на нашу зямлю не менш абразлівыя путы аўтаноміі. Папяровая самастойнасць БССР стала тым прамежкавым перыядам, калі з аднаго боку — працягваліся нішчыцца нашы нацыянальныя каштоўнасці, забіваўся сам дух беларушчыны, падчас сталінскіх рэпрэсій вынішчаліся беларусы, як этнас; з другога — расло пачуццё нацыянальнай свядомасці, любові да роднага краю, яго гісторыі, мовы, упартае жаданне ведаць свой радавод. Славутая кагорта элітнай часткі беларусаў 20-га стагоддзя знішчала сусветнае ўяўленне пра Беларусь, як пра адсталы і забіты край, беларуская слова стала разыходзіцца па свеце ў перакладах на многія дзесяткі іншых моў, беларуская культура, літаратура важка ўпісаліся ў кантэкст высокаўзроўневай сусветнай культуры.

Абвешчанне 27 ліпеня 1990 года незалежнасці Беларусі сталася прамым працягам спадчыны Беларускай Народнай Рэспублікі. Перыяд пачатку 90-х гадоў увайшоў у гісторыю Беларусі як перыяд Адраджэння перыяд беларусізацыі. Фармаванне шматпартыйнасці, дэмакратызацыя грамадска-палітычнага жыцця, павышаная цікавасць да нацыянальнай спадчыны, аднаўленне нацыянальнай сімволікі, абвяшчэнне беларускай мовы адзінай дзяржаўнай мовай ва ўмовах сацыяльнай напружанасці, эканамічнага крызісу бачыліся пачаткам станаўлення маладой незалежнай Рэспублікі Беларусь. Аднак, у другой палове гэтага дзесяцігоддзя зноў паўстала пагроза знішчэння заваяваных свабод. Беларускае слова зноў стала сімвалам апазіцыйнасці беларусаў уладзе. Катастрафічна падаюць наклады беларускамоўных кніг, газет, падручнікаў, зачыняюцца беларускія класы і школы. Носьбіты мовы з'яўляюцца аб'ектам пагардлівых адносін з боку ўладных структур, карыстанне мовай становіцца небяспечным для асобы.

Наша краіна падыходзіць да святкавання 80-х угодкаў БНР у вельмі складаны час. Таварыства Беларускай мовы імя Ф.Скарыны віншуе людзей Беларусі з гэтым значным юбілеем і выказвае надзею, што традыцыі, закладзеныя рупліўцамі БНР, будуць прадоўжаны ў справе пабудовы нашага сённяшняга Дома — Беларусі.

10.03.1998 г.

*Сакратарыят Таварыства беларускай мовы імя Ф.Скарыны.*

## Арышт епіскапа Пятра Гушчы - правакацыя супраць Беларускай Праваслаўнай царквы.

Так ацанілі вернікі захоп людзьмі ў цывільным проста на вуліцы аднаго з руплівцаў адраджэння Беларускай праваслаўнай царквы.

Праваслаўныя вернікі Менска ні на хвіліну не ўсумніліся ў невінаватасці Пятра Гушчы і пачалі збор подпісаў пад наступнай заявай.

### ЗАЯВА

Мы, вернікі і прыхільнікі Беларускай Праваслаўнай Царквы, абураны гвалтоўным захопам на вуліцы Я. Коласа ў Менску ля Гандлёва - прамысловай палаты, далёка ад свайго дому, невядомымі асобамі ў цывільным япіскапа Пятра Гушчы.

Уладыка Пётр займаўся духоўнай працай па вяртанні нашага народа да хрысціянскіх каштоўнасцяў. Менавіта ў гэты час яго помыслы былі скіраваны на аднаўленне разбуранага храма ў вёсцы Сёмкаў Гарадок Менскага раёна.

Мы лічым абсурдным прад'яўленае яму абвінавачванне, бо ўсе мы ведаем яго як шчырага сумленнага і самаахвярнага для хрысціянскай справы чалавека.

**Мы заклікаем праваахоўчыя органы да неадкладнага вырашэння гэтага непаразумення і вызвалення з-пад арышту япіскапа Пятра.**



ВЕСТКІ й ПАВЕДАМЛЕНЬНІ
Нью Ёрскага Аддзелу Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня
Belarusan-American Association, Inc.
166-34 Gothic Drive, Jamaica, N.Y. 11432

У БЕЛАРУСІ
Вязьні сумленьня
А. ШЫДЛОЎСКІ (19)
Я. ЛАБКОВІЧ

"Как любіць Беларусь нашу мілую, трава у розных краях паніка..."
МАЛАНКА
Бюлетэнь-газета "Іркуцкага таварыства беларускай культуры ім Я.Д.Чэрскага"
N 1(10) Студзень 1998 год

Паважанае спадарства!
Віншуем Вас з Калядным Сьвятам і Новым 1998 Годам!
Жадаем Вам у гэтым годзе моцнага сібірскага Здароўя, Дабрабыту, Шчасця і Кахання!
Рэдакцыя "Маланкі".
Рада ІТБК.

## *Дзень добры, паважаны спадар Станіслаў Суднік!*

Прывітанне Вам з Іркуцка!

Да мяне раптоўна трапіў N 15(331) газеты "Наша слова". Матэрыялы, надрукаваныя ў ім выклікалі вялікую цікавасць. Адразу бачна, што традыцыі "НС" не парушаны. Шмат цікавых даведак і зместаў па гісторыі і культуры мовы беларусаў. Безумоўна, такая газета патрэбна ўсім шчырым беларусам. Зацікаўлена атрымліваць яе і наша ІТБК . Але даслаць грошы поштай амаль немагчыма. Дык можа пачнем супрацоўнічаць на сяброўскіх дамоўленасцях. Мы будзем дасылаць Вам сваю "Маланку", а Вы - "Наша слова". З другога боку, калі хто будзе з сяброў Рады ІТБК у Менску, то мы ахвяруем колькі грошай на выданне "НС".

Перадавайце асабістае прывітанне сп.Людміле Дзіцэвіч, Алегу Трусаву, Нілу Гілевічу і Антаніне Хатэнка.

***З павагай Алег Рудакоў, г.Іркуцк.***

## Рэклама па-беларуску





# Шаноўныя сябры !

Стан беларускамоўнай адукацыі выклікае зразумелую заклапочанасць: так і не адрадзіўшыся у поўнай меры, беларускія школы і ВНУ пачынаюць знікаць. Таварыства беларускай мовы імя Ф.Скарыны ўдзяляе гэтаму вялікую увагу. Запланава правесці чарговае паседжанне Рэспубліканскай Рады ТБМ па праблемах беларускамоўнай вышэйшай школы. У час падрыхтоўкі да яго былі разасланыя лісты рэктарам усіх ВНУ Беларусі з наступнымі пытаннямі:

***Рэктару*** ______________________________

***Шаноўны (ая)***

______________________________

*Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны разам з прадстаўнікамі нацыянальна свядомай грамадскасці сур'ёзна заклапочана станам беларускамоўнасці грамадства - аднаго з галоўных фактараў захавання і развіцця беларускага этнасу, станаўлення беларускай нацыі і захавання ў незалежнасці нашай дзяржавы. Рэальнай стала пагроза канчатковай асіміляцыі беларусаў з прычыны рэзкага звужэння арэалу іх культуры і мовы. Насцярожвае тое, што лідыруе ў гэтых трагічных працэсах наша сталіца - Менск. Пацверджанне таму - хуткае скарачэнне беларускамоўных школ: калі ў 1993 -1994 навучальным годзе 58,6% першакласнікаў Менска прыйшлі ў беларускамоўныя класы, дык у гэтым годзе - толькі 7,3% . У 10 - х жа і 11-х класах школ Менска на беларускай мове вучацца адпаведна толькі 74 і 33 вучні. Гэта на ўвесь двухмільённы сталічны горад, у якім пераважную большасць складаюць беларусы!*

*Прычын гэтаму трагізму шмат. Але сярод найбольш відавочных і цяжка вытлумачальных нам бачыцца палітыка Міністэрства адукацыі Рэспублікі Беларусь у пытаннях мовы навучання наогул і ў ВНУ - асабліва. Думаецца, што гэтыя з'явы заслугоўваюць грунтоўнага даследавання і шырокага абмеркавання.*

*Мы спадзяёмся на разуменне нашай заклапочаннасці. Таму просім Вас разгледзець стан беларускамоўнасці ў даверанай Вам вышэйшай навучальнай установе, прыняць неабходныя рашэнні і даць адказы на наступныя пытанні:*

*1. Ці вывучаецца беларуская мова студэнтамі ўсіх спецыяльнасцяў Вашай ВНУ? На якіх курсах і ў якім аб'ёме выкладанне ідзе па-беларуску? Якая дынаміка гэтага працэсу, пачынаючы з 1993 года?*

*2. На якой мове выкладаюцца грамадскія дысцыпліны?*

*3. Як выкарыстоўваецца беларуская мова пры вывучэнні прыродазнаўчых навук (матэматыкі, фізікі,хіміі, біялогіі, геаграфіі)?*

*4. Колькі выкладчыкаў ( у працэнтных адносінах ад усіх ) карыстаецца ў навучальным працэсе беларускай мовай?*

*5. Колькі абітурыентаў (у працэнтных адносінах ад агульнай колькасці) здавала уступныя экзамены па-беларуску, пачынаючы з 1993 года?*

*6. Ці разглядаліся на Савеце Вашай ВНУ пытанні выкарыстання беларускай мовы ў працэсе навучання? Якія прымаліся рашэнні і калі?*

*7. Колькі падручнікаў і іншай навучальнай літаратуры выдадзена на беларускай мове ад усёй выдадзенай Вашымі супрацоўнікамі літаратуры?*

*8.Што зтрымлівае пашырэнне выкарстання беларускай мовы ў навучальным працэсе Вашай ВНУ?*

*9. Ці афармляюцца дысертацыйныя даследванні ў Вашай ВНУ на беларускай мове ? Ці бываюць абароны на ёй?*

*10. На якой мове вядзецца справаводства ВНУ і праводзяцца паседжанні яе Савета?*

*11. Якія мерапрыемствы агульнадзяржаўнага ўзроўню неабходны, на Вашу думку, для развіцця і пашырэння ўжытку беларускай мовы?*

*12. На колькі Вы асабіста валодаеце і карыстаецеся беларускай мовай?*

*Будзем вельмі ўдзячны за прадстаўленне звестак да 25 лютага 1998 года. Яны будуць улічаны пры аналізе сітуацыі з беларускай мовай у вышэйшых навучальных установах краіны, якія плануюцца зрабіць на пашыраным паседжанні Рады ТБМ імя Ф.Скарыны ў сакавіку сёлета, і выкарастаны для інфармавання грамадства праз СМІ.*

***З павагай Старшыня Таварыства беларускай мовы імя Ф.Скарыны, паэт Генадзь Бураўкін.***
***Старшыня Менскай гарадской Рады ТБМ, доктар тэхнічных навук, прафесар, акадэмік Міжнароднай акадэміі тэхнічнай адукацыі Аляксей Саламонаў.***

На вялікі жаль, актыўнага водгуку на нашу просьбу пакуль што няма. Атрыманы толькі адказы рэктараў Полацкага дзяржаўнага універсітэта, Гарадзенскага медыцынскага універсітэта, Беларускага дзяржаўнага эканамічнага універсітэта, Менскага дзяржаўнага лінгвістычнага універсітэта, а таксама тэлефонны званок з Інстытута нацыянальнай бяспекі.

Лічачы ўзнятую праблему важнай для шырокіх колаў грамадства - выкладчыкаў ВНУ, студэнтаў, бацькоў, - заклікаем да ўдзелу ў абмеркаванні ўсіх жадаючых. Шырокі абмен думкамі, магчыма, стане першым крокам да вырашэння надзённых пытанняў. Лісты з прапановамі, інфармацыяй, развагамі, просім накіроўваць на адрас:

220005 г.Менск вул.Румянцава, 13. тэл.2332511

***Сакратарыят Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны.***

## Адстаім сваю мову Беларускую - Святую Маці нашай сукупнай Душы!

*Сёння на пласе родная мова -*
*Вырваць жывую належыць з агню.*
*Слова "кахаю" - тут слабае слова.*
*Мужнае слова - "абараню"!*

**(Ларыса Геніюш).**

Свет яшчэ не сустракаўся з прыкладам, каб прэзідэнт якой- небудзь краіны ўступіў у смяротную схватку з мовай карэннага этнасу сваёй краіны, які складае прыкладна 80 працэнтаў ад агульнай колькасці яе насельніцтва. У сваёй вайне Лукашэнка А.Р. выкарыстоўвае ўсе самыя непрыстойныя сродкі: і гістарычную злачыннасць, закладзеную яшчэ маскоўскімі царамі - захопнікамі Беларусі; і тое, што ў савецкія часы рабілася ўсё - для поўнай і канчатковай русіфікацыі, для перамогі над зняволенай мовай; і перамяшчэнне ў Беларусь, ва ўсе яе інтэлектуальныя сферы велізарнай колькасці камуністычна " свядомых" людзей для задушэння "нацдэмаўшчыны", мацавання савецкай улады і ваеннай магутнасці СССР; і імкненне большасці з іх асіміляваць беларусаў у складзе Расеі; і проста сілай навязаную хлусню абмежаванага ў агульным развіцці чалавека. Гэта яму найвялікшаму (па ягоных меркаваннях) лінгвісту чалавецтва належыць выказванне на ўвесь свет: "Люди которые говорят на белорусском языке, не могут делать ничего, кроме как разговаривать на белорусском языке. Потому что по-белорусски нельзя выразить что-то большое (чым так бязмежна перапоўнены Лукашэнка - аўт.). Белорусский язык - бедный язык. В мире существуют только два великих языка - русский и английский" ("Комсомольская правда" ад 03.7.1997г.) Якім жа хваравіта ўпартым невукам і нават, прабачце, цемрашалам трэба быць, каб сцвярджаць такое і пры гэтым не звяртаць ніякай увагі на сусветны досвед мноства народаў у іх барацьбе за родную мову і, нават, на тое, што вельмі часта моўныя спрэчкі пераходзілі ў спрэчкі гарматаў, у вайну, якой так баіцца наш народ і на якую яго штурхаюць падобныя выказванні.

У адпаведнасці з адзначаным Таварыства Беларускай мовы г.Менска мае намер звярнуцца ў міжнародны суд за знявагу моўнай Сукупнай Душы 12-мільённага беларускага этнасу. Звяртацца ў беларускія суды безвынікова. Бо падабраны яны па прынцыпу: "па Сеньку - шапка". Будзем прасіць стварыць своеасаблівы Нюрнбергскі працэс над усімі тымі, хто праводзіў і праводзіць генацыд над беларускай мовай. Таму што яна - не проста сродак гукавых зносін паміж людзьмі, а праява Духу беларусаў, іх Сукупнай Душы. Аб гэтым у асобным артыкуле будзе роздум - размова. Зараз жа для таго суда мы збіраем адпаведныя звесткі і перш - наперш аб стане нашай мовы ў ВНУ. Бо калі ёю там не карыстаюцца, то і школьнікі, і бацькі, і ўсё грамадства не бачыць патрэбы ў ёй, штурхаецца на этнічнае самазабойства. Аднак рэктары, як у рознай меры стаўленікі - службісты Лукашэнкі, не спяшаюцца адказваць на нашы пытанні, відаць, у надзеі, што яго імя прыкрые іх дзеянні як зараз, так і перад Гісторыяй - стваральнікам, фіксатарам і аналізатарам падзей і з'яў. Таму мы звяртаемся да рэдакцыі з просьбай надрукаваць наш зварот да рэктараў усіх ВНУ Менска і рэспублікі (і ў тым ліку - недзяржаўных, бо яны таксама павінны служыць беларускім караням). Пры гэтым просім адгукнуцца на наш боль сардэчны ўсіх выкладчыкаў ВНУ , настаўнікаў, навукоўцаў, таварыствы беларускай мовы, ўсіх жыхароў Беларусі. Асаблівае спадзяванне ў нас - на моладзь.

Можа каму- небудзь мае словы пападуцца не зусім карэктнымі. Але ж на працягу свайго пакутлівага і складанага жыцця я перканаўся, што з лукашэнкамі трэба размаўляць толькі на іх "языках". Бо іншых, нармальных зваротаў, яны ўжо не здольны пачуць.

26.02.98г. ***Аляксей Саламонаў, старшыня Менскай гарадской рады Таварыства беларускай мовы, доктар тэхнічных навук, прафесар.***

## Беларускія СМІ пра беларускую мову

***Агляд і каментары Язэпа Палубяткі***

-- На беларускай зямлі няма ніводнай беларускамоўнай ВНУ! Прапаную паважанаму Аляксандру Сасноўскаму і яго калегам гэтыя абставіны лічыць мэтавызначальнымі, першаснымі ў сваёй дзейнасці.

***"Звязда" 28.02.98г. А.Іончыкаў.***
***Прапанова міністру культуры РБ.***

-- *То ж мы, беларусы, думаецца, ужо дараслі да таго, каб годна паказаць сябе перад светам, давесці ўсім, што мы - вялікі народ, які мае сваю тысячагадовую гісторыю, свае традыцыі, свае не менш вартыя, чым у любога іншага народа, духоўныя набыткі - арганічную частку сусветнай цывілізацыі.*

***К.Цвірка "Народная газета" 28.02.98г.***

... Беларуская мова літаральна за пару гадоў вялікай часткай грамадзянаў з усіх "кастаў" была асэнсаваная і прынятая як сымбаль Свабоды. Найперш - унутранай свабоды ...

... "Матчына" расейская мова як не забаранялася, так і існуе дагэтуль сабе пацiху, але ж забарона нармальнага жыцця прыйшла менавіта з забаронай беларускай мовы.

***"Наша ніва" № 4 (101)***
***"Жаба ў роце" С.Квяткоўскі.***

*Цікава, што доля беларускай мовы ў нашых газетах менее, але, менавіта, там яшчэ захоўваецца больш - менш дастатковы ўзровень граматнасці.*

***Алесь Катлянік Лім 27.02.98г.***

## Не зневажай нас спадар Бернат.

У 10 нумары ЛІМа ад 6 сакавіка прачытаў ліст Алега Берната "Літаратура для літаратурных колаў?" Есць там такое меркаванне "Неяк разгаварыўся з чалавекам, які зусім не ведае беларускае мовы. Гаворка вялася аб гістарычным рамане , аб гісторыі Беларусі наогул. І тут ён узгадвае К.Тарасава і яго твор "Пагоня на Грунвальд". Усё ж такі прачытаў! Так, на рускай мове, але затое ён ведае ўжо нешта пра беларусаў, г.зн. пра сваіх прашчураў. А хочаце больш яскравы прыклад таго, што каб нагадаць беларусам тое, што яны беларусы, неабавязкова пісаць на беларускай мове..."

Божа ! Навошта ты ў такіх людзей і іх абаронцаў адняў розум.

*Адчуванне такое, што цяперашнее беларускае кіраўніцтва , " вертыкаль" пранізана нецерпелівацсю да ўсяго беларускага і напружвае ўсе свае сілы, каб знішчыць, зліквідаваць беларускую адметнасць ва ўсіх праявах жыцця. Вось мяркуйце: нацыянальную мову ўдушылі, нацыянальную сімволіку зганьбілі, нацыянальную школу зрабілі расейскай, лепшыя кнігі па нацыянальнай гісторыі прызнаюцца шкоднымі і забараняюцца...*

***В.Скараход***
***"Народная воля" 4.03.98г.***

## "Біржа інфармацыі" закранае тэму.

У Горадні вышла новая газета "Биржа информации". Есць там палітычная інфармацыя, эканамічныя навіны, культурная хроніка. Як даніна модзе - газета двухмоўная. Вось толькі шкада, што на беларускай мове друкуюцца толькі матэрыялы на тэму нацыянальнага адраджэння. Беларуская мова такая ж як іншыя, на ей можна абмяркоўваць як палітычныя так і эканамічныя праблемы. Газета выдаецца высокапрафесійнымі журналістамі і словам беларускім яны валодаюць цудоўна. Беларускае слова не знізіць узровень выдання.

## Трывога за беларускую мову не пакідае і нас.

Наш выдатны паэт, старшыня саюза пісьменнікаў Беларусі Максім Танк у 1970 годзе ў сваім дзённіку напісаў: "Узяўся за свой даклад. Думаю больш грунтоўна спыніцца на непрыглядным становішчы з беларускай мовай і выхаванні моладзі. Ва ўсіх нас балючай стрэмкай у сэрцы сядзіць лёс роднай мовы. Пытанне гэта не пакідае мяне даўно, яшчэ з тых гадоў, калі пачаў пісаць вершы, і яны выклікалі здзіўленне: "Глядзіце, ён піша на беларускай мове" ("Полымя", № 2, 1997 г.).

Гэта быў час, калі на нашу мову ішоў шырокі наступ і сфера яе ўжывання няўхільна звужалася. Некаторыя кіраўнікі Беларусі бачылі і разумелі ненармальнасць такога стану, але дзейнічала сталінска-суслаўская тэорыя збліжэння і зліцця нацый па меры набліжэння да камунізму. Таму уплыў расіян павялічваўся, і ішоў актыўны працэс утварэння адзінага савецкага народа. П.Панчанка прыпамінае, як на рэспубліканскім партыйным активе ў Менску ў 1959 г. генсек М.Хрушчоў не задаволіўся дакладам К.Т.Мазурава, які быў зроблены, як тады вялося, на беларускай мове, і тут жа ў прэзідыуме пачаў яго лаяць: " Ни черта не понятно!" ("Неман", № 8, 1997г.).

Але змаганне за нашу мову працягвалася.

Тады можна было звярнуцца ў ЦК КПБ да загадчыкаў адзелаў, яго сакратароў, было бюро, пленумы, хоць гэта мала дапамагала. У 1986 г. М.Танк у дзённіку запісаў: "Зараз, калі менш і менш ужываецца ў быце беларуская мова, слоўнікі, якія ў нас выдаюцца, нагадваюць помнікі на пагосце, якія зарастаюць травой забыцця. Гаварыў аб гэтым у ЦК . І.І.Антановіч раіць схадзіць да Слюнкова, бо нельга пусціць на самацёк выкладанне ў школах беларускай мовы, што адбіваецца і на тыражах нашых кніг, часопісаў, газет. Страта культуры любога народа - агульная страта. Трэба схадзіць...Хоць я ўжо зняверыўся ў выніках такога хаджэння па муках"( "Полымя" № 8 1997 г.).

У дзённіку 19 мая 1987 года паэт піша: "Вярнуўся з сустрэчы з кіраўнікамі нашай рэспублікі. Абмяркоўвалі розныя пытанні. Амаль усе гаварылі аб ненармальным становішчы з беларускаю моваю ў рэспубліцы. Відаць, слушна зазначыў В.Быкаў, што вельмі далёка зайшлі ў нас нігілізм і нешанаванне яе. І ён ужо не верыць, каб нешта тут можна было выправіць". А 14 чэрвеня М. Танк робіць запіс: "На вачах, разам са смерцю рэк, азёр, лясоў, паветра памірае наша беларуская мова. Відаць, усё даб'ем да абуха". 29 ліпеня запісаў: "Выклікалі ў ЦК на абмеркаванне калектыўнага пісьма, у якім яго аўтары патрабуюць выкладанне ў школах беларускай мовы" ("Полымя" № 9,1997г.).

Нечаканы ўздым нацыянальнага руху ў пачатку 90-х гадоў на нашых вачах атрымаў значныя поспехі і адчувальныя вынікі ва ўсіх кірунках дзяржаўнага і грамадскага жыцця і парадзіў надзею, што нарэшце прыйшла доўгачаканая пара і спрыяльныя ўмовы для адраджэння беларускасці. Але гэты працэс цягнуўся толькі некалькі гадоў і зноў быў хутка спынены. Пачалося вяртанне да ранейшых часоў, зварот усяго "лепшага" савецкага, у тым ліку абмежавання і выцяснення беларускага слова з дзяржаўнага ўжытку. Розніца ў тым, што гэтая тэндэнцыя ў тыя гады ішла з верху, з Масквы, а цяпер яе ініцыявалі ўжо знізу, на месцы ўлады Беларусі. Таму трывога за нашу мову як была, так і засталася, пры тым яна ніколькі не змяншаецца ў наш час. Вось погляд на яе стан паэта П.Панчанкі:

"Кажуць, мова мая дажывае
Век ціха, ёй знікнуць пара.
Для мяне ж яна вечна жывая,
Як раса, як сляза, як зара."

"Родная мова".

***Міхась Пузіноўскі, ветэран педагагічнай працы. Гор.Ашмяны.***

наша СЛОВА № 10(344) 18 САКАВІКА 1998 г. Вострая брама 3

# 80-я ўгодкі Беларускай Народнай Рэспублікі

## ГРАМАТА ДА БЕЛАРУСКАГА НАРОДА

Браты-беларусы, працоўны народ Беларусі, работнікі і сяляне-земляробы, беларусы-ваякі, усе, каму дарагая воля і рэвалюцыя, усе, у кім гарыць і б'ецца сэрца за правы і волю беларускага народа.

Грамадзяне ўсіх іншых народаў, якія жывуць на нашай зямельцы.

Прыйшоў момант, якога не ведае гісторыя нашае многапакутнае зямлі, воляй рэвалюцыі мы пастаўлены перад патрэбай сабраць усе жывыя сілы нашае Бацькаўшчыны дзеля абароны і утрымання нашых вольнасцяў, здабытых крывёй мільёнаў сыноў пакрыўджанай, бяздольнай Беларусі.

У гэтыя дні належыць паказаць сапраўды, што злучаная пакутай беларуская рэвалюцыйная дэмакратыя не дапусціць, каб віхор бязладу згубіў нашую святую нацыянальную справу абароны вольнасцяў і правоў Беларускага Народа.

Браты - беларусы, працоўны народ, сыны зямлі і абаронцы вольнасцяў Бацькаўшчыны. Злучыцеся ў адну згодную сям'ю каля Вялікай Беларускай Рады, адкідаючы ад сябе сеючыя нязгоду поклічы і будзьце асцярожнымі ў сваіх дзеях. Толькі парадак і згоднасць паміж усімі дапаможа нам утрымаць спакой у нашым краі, а еднасць з войскам падыме дух і злучыць увесь народ.

Браты-беларусы. Вялікая Беларуская Рада, апіраючыся на Цэнтральную Вайсковую Раду, Беларускі Выканаўчы Камітэт Заходняга Фронту, на усе беларускія арганізацыі, верыць у сілу і мудрасць беларускага народа, у руках каторага вялікая будучыня Вольнай Беларусі, воля, зямля і згода.

*Вялікая Беларуская Рада*
*Часовая Цэнтральная Беларуская Вайсковая Рада*
*Беларускі Выканаўчы Камітэт Заходняга Фронту*
*Беларуская Сацыялістычная Грамада*
*Беларуская Народная Партыя Сацыялістаў*

Менск-Беларускі 27 кастрычніка 1917 года.

## ПАСТАНОВА ПЕРШАГА ЎСЕБЕЛАРУСКАГА КАНГРЭСУ АБ САМАВЫЗНАЧЭННІ БЕЛАРУСІ І АБ ЧАСОВАЙ КРАЁВАЙ УЛАДЗЕ

Усебеларускі З'езд, у колькасці звыш тысячы чалавекаў, прадстаўленых сялянствам, жаўнерамі, работнікамі і ўсімі дэмакратычнымі арганізацыямі цэлага краю, абмеркаваўшы цяжкі стан усяе Расейскае Дэмакратычнае Фэдэрацыйнае Рэспублікі і асабліва крытычны момант для Беларусі, прызнаў за канечнае:

1. Замацоўваючы сваё права на самавызначэнне, абвешчанае расейскай рэвалюцыяй, і зацвярджаючы рэспубліканскі дэмакратычны лад у межах Беларускай Зямлі, для ўратавання роднага краю і захавання яго ад падзелу, 1-шы Усебеларускі Кангрэс пастанаўляе безадкладна ўтварыць са свайго складу орган краёвае ўлады, які часова становіцца на чале кіраўніцтва краю, уваходзячы ў зносіны з цэнтральнай уладай.

## ДРУГАЯ ЎСТАЎНАЯ ГРАМАТА

### Да народаў Беларусі

У часе сусветнай вайны, што бурыць адныя моцныя дзяржавы і аслабляе другія, абудзілася Беларусь да дзяржаўнага жыцця. Пасля трох с паловаю вякоў няволі зноў на ўвесь свет кажа беларускі народ аб тым, што ён жыве і будзе жыць. Вялікі Народны Збор - Усебеларускі З'езд 15-17 снежня 1917 года, дбаючы аб долі Беларусі, зацвердзіў на яе землях рэспубліканскі лад. Выконваючы волю З'езду і баронячы дзяржаўныя правы народа, Выканаўчы Камітэт Рады З'езду гэтак пастанаўляе аб дзяржаўным ладзе Беларусі і аб правах і вольнасцях яе грамадзян і народаў:

1. - Беларусь у рубяжах рассялення і лічэбнай перавагі беларускага народа абвяшчаецца Народнаю Рэспублікай.

2. - Асноўныя законы Беларускае Народнае Рэспублікі зацвердзіць Устаноўчы Сойм Беларусі, склікaны на асновах агульнага, роўнага, простага, патаемнага і прапарцыянальнага выбарчага права, не зважаючы на род, народнасць і рэлігію.

3. - Да часу, пакуль збярэцца Устаноўчы Сойм Беларусі, заканадаўчая ўлада ў Беларускай Народнай Рэспубліцы належыць Радзе Усебеларускага З'езду, дапоўненай прадстаўнікамі нацыянальных меншасцяў Беларусі.

4. - Выканаўчая і адміністрацыйная ўлада ў Беларускай Народнай Рэспубліцы належыць Народнаму Сакратарыяту Беларусі, які прызначаецца Радаю З'езду і перад ёю трымае адказ.

5. - У рубяжах Беларускае Народнае Рэспублікі абвяшчаецца свабода слова, друку, сходаў, забастовак, хаўрусаў; безумоўная свабода сумлення, незачэпнасць асобы і памяшкання.

6. - У рубяжах Беларускае Народнае Рэспублікі ўсе народы маюць права на нацыянальна-персанальную аўтаномію; абвяшчаецца роўнае права ўсіх моваў народаў Беларусі.

7. - У рубяжах Беларускае Народнае Рэспублікі права прыватнае ўласнасці на зямлю касуецца. Зямля перадаецца без выкупу тым, што самі на ёй працуюць. Лясы, азёры і нутро зямлі абвяшчаюцца ўласнасцю Беларускае Народнае Рэспублікі.

8. - У рубяжах Беларускае Народнае Рэспублікі ўстанаўліваецца найбольш 8-гадзінны рабочы дзень.

Абвяшчаючы ўсе гэтыя правы і вольнасці грамадзян і народаў Беларускае Народнае Рэспублікі, мы, Выканаўчы Камітэт Рады З'езду, абавязуемся пільнаваць законнага парадку жыцця ў Рэспубліцы, сцерагчы інтарэсы ўсіх грамадзян і народаў Рэспублікі і захаваць правы і вольнасць працоўнага люду. А таксама даложым усіх сілаў, каб склікаць у найбліжэйшым часе Устаноўчы Сойм Беларусі.

Усіх верных сыноў Беларускае Зямлі клічам дапамагчы нам у цяжкой і адказнай нашай працы.

*Выканаўчы Камітэт Рады 1-га Усебеларускага З'езду*

Выдадзена ў Менску-Беларускім 9 сакавіка 1918 года.





**Дзяржаўныя сцяг і герб БНР**

## БЕЛАРУСКІ НАЦЫЯНАЛЬНЫ ГІМН

Мы выйдзем шчыльнымі радамі
На вольны, родны свой простор;
Хай воля вечна будзе з намі,
А гвалту мы дамо адпор!

Няхай жыве магутны, смелы
Наш беларускі вольны дух;
Штандар наш бел-чырвона-белы
Пакрыў сабой народны рух.

На бой! За шчасце і за волю
Народу слаўнага свайго!
Браты, цярпелі мы даволі...
На бой! - усе да аднаго!

Імя і сілу беларуса
Няхай пачуе й бачыць той,
Хто смее нам нясці прымусы
І першы выкліча на бой.

Браты, да шчасця мы падходзім;
Хай гром грыміць яшчэ мацней!
У крывавых муках мы народзім
Жыццё Рэспублікі сваей!

## ПЕРШАЯ ЎСТАЎНАЯ ГРАМАТА

### Да народаў Беларусі

Родная старонка наша апынулася ў новым цяжкім стане. Дзе цяпер улада, што была тут, няведама, мы стаімо перад тым, што наш край можа быць заняты нямецкімі войскамі. Мы павінны ўзяць свой лёс ва ўласныя рукі. Беларускі народ павінен здзейсніць сваё права на поўнае самавызначэнне, а нацыянальныя меншасці на нацыянальна-персанальную аўтаномію. Правы нацый павінны знайсці сваё здзяйсненне шляхам склікання на дэмакратычных асновах Устаноўчага Сойму. Але і да склікання Устаноўчага Сойму ўся ўлада на Беларусі павінна належаць тым народам, якія на ёй жывуць. Выканаўчы К-т Рады першага Усебеларускага з'езду, папоўнены прадстаўнікамі рэвалюцыйнай дэмакратыі нацыянальных меншасцяў, здзяйсняючы мэты З'езду, абвяшчае сябе часовай уладай на Беларусі для кіравання краем і склікання, як можна хутчэй, Усебеларускага Устаноўчага Сойму на аснове агульнага, простага, роўнага, тайнага і прапарцыянальнага выбарчага права для ўсякага дарослага, ня лічачыся з нацыянальнасцю, вызнаннем і родам. Часовую народную ўладу краю, якая ставіць сабе мэтай абарону і зацверджанне заваяванняў рэвалюцыі, будзе здзяйсняць створаны намі Народны Сакратарыят Беларусі, які ад гэтага дня пачаў выконваць свае абавязкі. Персанальны склад Сакратарыяту будзе апублікаваны пасля.

Дадзена ў Менску-Беларускім 21 (8) лютага 1918 г.
*Выканаўчы Камітэт Рады Усебеларускага З'езду.*

## ТРЭЦЯЯ ЎСТАЎНАЯ ГРАМАТА

Год назад народы Беларусі разам з народамі Расеі скінулі ярмо Расейскага царызму, які найцяжэй прыціснуў быў Беларусь; ні пытаючыся народу, ён укінуў наш край у пажар вайны, якая чыста зруйнавала гарады і вёскі беларускія. Цяпер мы, Рада Беларускай Нарднай Рэспублікі, скідаем з роднага краю апошняе ярмо дзяржаўнай залежнасці, якое гвалтам накінулі расейскія цары на наш вольны і незалежны край. Ад гэтага часу Беларуская Народная Рэспубліка абвяшчаецца незалежнаю і вольнаю дзяржаваю. Самі народы Беларусі, у асобе свайго Устаноўчага Сойму, пастановяць аб будучых дзяржаўных сувязях Беларусі.

На моцы гэтага трацяць сілу ўсе старыя дзяржаўныя сувязі, якія далі магчымасць чужому ўраду подпісаць і за Беларусь трактат у Берэсці, што забівае на смерць беларускі народ, дзелячы зямлю яго на часткі. На моцы гэтага ўрад Беларускай Народнай Рэспублікі мае ўвайсці ў адносіны з зацікаўленымі бакамі, прапануючы ім перагледзець тую часціну Берасцейскага трактату, якая датычыць Беларусі, і падпісаць мірную дамову з усімі ваяваўшымі дзяржавамі.

Беларуская Народная Рэспубліка павінна абняць усе землі, дзе жыве і мае лічбенную перавагу беларускі народ, а ўласне Магілёўшчыну, беларускіе часткі Меншчыны, Гарадзеншчыны (з Гародняй, Беластокам і інш.), Віленшчыны, Віцебшчыны, Смаленшчыны, Чарнігаўшчыны і сумежнае часткі суседніх губерняў, заселенныя беларусамі.

Рада Беларускай Народнай Рэспублікі пацвярджае ўсе тыя правы і вольнасці грамадзян і народаў Беларусі, якія абвешчаны Устаўной Граматай ад 9 сакавіка 1918 г.

Абвяшчаючы аб незалежнасці Беларускай Народнай Рэспублікі Рада яе пакладае свае надзеі на тое, што ўсе любячыя волю народы дапамогуць беларускаму народу ў поўнай меры здзейсніць яго палітычна дзяржаўныя ідэалы.

*Рада Беларускай Народнай Рэспублікі*

Дадзена ў Менску-Беларускім 25 сакавіка 1918г.

# Летапісец беларускага мовазнаўства
## *Івану Германовічу - 70*

Сёння мы маем не так і мала літаратуры, прысвечанай гісторыі беларускай лінгвістыкі. Ёсць праца А.Жураўскага і А.Крывіцкага "Беларускае мовазнаўства ў Акадэміі навук БССР", ёсць спецыяльныя бібліяграфічныя даведнікі, існуюць манаграфіі пра Я.Карскага, П.Бузука, Б.Тарашкевіча. Ёсць абагульняльная праца Л.Шакуна "Гісторыя беларускага мовазнаўства".

Між тым, усяго толькі нейкіх трыццаць гадоў назад гісторыі беларускай лінгвістыкі як асобнай навуковай дысцыпліны не існавала. Не існавала таму, што гісторыя навукі аб беларускай мове ў тую пару яшчэ не была напісана. У 60-я гады беларускія мовазнаўцы яшчэ даволі цьмяна ўяўлялі сабе даробак сваіх папярэднікаў з даваеннага часу, бо пара рэабілітацыі герояў беларускай лінгвістычнай сцэны 20 - 30-х гадоў (амаль усе яны былі рэпрэсаваны) яшчэ толькі наступала. Цягам дзесяцігоддзяў поле беларускай лінгвістыкі выглядала пустародным, неўрадлівым, бязлюдным і безгалосым, і толькі ў 60-ыя ў яго абсягі сталі вяртацца асобы, якія ў 20-ыя складалі гонар беларускага мовазнаўства. Высокародным збіральнікам страчанага, незаслужана змарнаванага стаў у гэтую пару вядомы беларускі лінгвіст, актыўны аўтар "Нашага слова" ад самых першых яго нумароў Іван Германовіч.

Іван Клімавіч Германовіч нарадзіўся 28 лютага 1928 года ў вёсцы Садавічы Капыльскага раёна Менскай вобласці. Скончыў Менскі дзяржаўны педагагічны інстытут, у 1963 годзе абараніў кандыдацкую дысертацыю "Лексічная нармалізацыя беларускай літаратурнай мовы ў 20 - 30-ых гадах XX ст." Пазней навуковец браў удзел у падрыхтоўцы другога, "сінтаксічнага" тома "Граматыкі беларускай мовы" (апублікаваны ў 1966 годзе) і напісанні працы "Современный русский язык" (1979 - 1983). Зарабляючы свой хлеб надзённы значную частку свайго жыцця Іван Германовіч прапрацаваў на кафедры расейскай мовы Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта, але мовай яго сэрца заўсёды была беларуская. З беларускай мовай і беларускай лінгвістыкай звязаны і сённяшнія жыццёвыя клопаты юбіляра.

Першай публікацыяй І Германовіча, датычнай гісторыі беларускага мовазнаўства, быў надрукаваны ў 1964 годзе сумесна з Б.Лапавым артыкул пад сімпатычнай назвай - "Ёсць такі слоўнік". Гэта публікацыя асвятляла дзейнасць на мовазнаўчай ніве Івана Бялькевіча. У сярэдзіне 20-ых гадоў тагачасны дырэктар Мсціслаўскага педагагічнага тэхнікума пачаў збіраць матэрыялы для краёвага слоўніка ўсходняй Магілёўшчыны, аднак у 1930 годзе ён быў высланы з Беларусі, куды яму не суджана было вярнуцца. Да канца свайго жыцця І.Бялькевіч не прыпыняў працы над слоўнікам, які, аднак, надрукаваны не быў. Сваёй публікацыяй І.Германовіч і Б.Лапаў звярнулі ўвагу на каштоўную лексікаграфічную працу, якая нарэшце ў 1970 годзе была выдадзена.

У 1967 годзе І.Германовіч і Б.Лапаў апублікавалі артыкул пра, бадай, самага кваліфікаванага беларускага лінгвіста 20-ых гадоў Сцяпана Некрашэвіча. Дзейнасць гэтага навукоўца канцэнтравалася на найважнейшых напрамках беларускага мовазнаўства. Ён быў першым дырэктарам Інстытута мовазнаўства і пры вырашэнні навуковых і практычных задач беларускай лінгвістыкі нязменна прапаноўваў най--больш прымальныя падыходы. Аднак у 1930 годзе навуковец быў рэпрэсаваны. У 1918 годзе дзейснасць С.Некрашэвіча праходзіла у рамках структур Беларускай Народнай Рэспублікі, таму пасля арышту яго прозвішча на працягу амаль чатырох дзесяткаў гадоў лічылася "непажаданым". І ў гэтым выпадку публікацыя І.Германовіча сарвала заслону маўчання, якой была ахутана імя таленавітага мовазнаўца.

Затым былі працы пра І.Воўка-Левановіча, А.Баграновіча, П.Юргялевіча, К.Каганца, М.Шатэрніка і іншых беларускіх лінгвістаў. На сярэдзіну 70-ых гадоў у І.Германовіча выспела задумка падрыхтаваць бібліяграфічны даведнік пра беларускіх мовазнаўцаў, які ўключаў бы ўсіх больш-менш значных лінгвістаў XIX і XX стагоддзяў. У гэты час ён звярнуў увагу на дзейнасць менш вядомых мовазнаўцаў "другога эшалона", праца якіх звычайна заставалася ў цяні, — А.Гурло, І.Зянько, А.Саломеніка, К.Шапялевіча, Г.Шкляра, В. Шэлег. Сёння не так проста ўявіць сабе цяжкасці, з якімі сутыкаліся яшчэ не так даўно даследчыкі, якія спрабавалі ўзнавіць праўдзівую гісторыю развіцця нашай навукі. Часам звычайныя метады здабывання навуковай інфармацыі плёну не давалі, і тады даводзілася звяртацца да нетрадыцыйных. Так, напрыклад, збіраючы матэрыялы пра С. Некрашэвіча і сутыкнуўшыся з непрабойнай бранёю тагачасных спецхранаў, І.Германовіч вырашыў наўдачу з'ездзіць у тую мясцовасць, дзе С.Некрашэвіч працаваў у дыялекталагічнай экспедыцыі. Паездка дала плён: такім чынам у абход архіваў было ўстаноўлена месца нараджэння навукоўца, былі знойдзены некаторыя яго сваякі. Вынікам ахвярнай працы даследчыка ў вольны ад службовых заняткаў час, шматгадовых карпатлівых пошукаў у архівах і бібліятэках стала апублікаваная ў 1985 годзе кніга "Беларускія мовазнаўцы", у якую ўвайшлі нарысы пра 17 беларускіх лінгвістаў. Кніга атрымала выключна дабразычлівы водгук у навуковым асяроддзі, яе не можа абмінуць ніводзін даследчык, які хоць трохі цікавіцца гісторыяй беларускага мовазнаўства даваеннай пары.

На пачатку 90-х гадоў І.Германовіч вельмі многа працы ўклаў у падрыхтоўку энцыклапедыі "Беларуская мова". Пераважная большасць апублікаваных у гэтым даведніку артыкулаў-персаналій належыць яго пяру. Выйшаўшы колькі гадоў таму на заслужаны адпачынак, І.Германовіч не спыняе свае дзейнасці: апошнім часам ён апублікаваў партрэты лінгвістаў Е. Мяцельскай, Н.Жыдовіч, Я.Рамановіч і іншых. Новыя артыкулы знаходзяцца на рабочым стале даследчыка і ў дні ягонага юбілею.

Чытачы "Нашага слова" жадаюць Івану Клімавічу Германовічу шчасця, здароўя, доўгіх гадоў жыцця і плёну ў працы на ніве беларускага мовазнаўства!

***Сяргей Запрудскі***

# Трохі пра прозвішчы.

Калі штабная машыністка афармляла дакументы на перавод яфрэйтара 558 ваенна-будаўнічага атрада, што месціўся ва Уруччы пад Менскам у Форт Шаўчэнка, што -- у пустыні на ўсходнім узбярэжжы Каспійскага мора, яна ўяўляла сабе гэтага жаўнера высокім і цыбатым, бо і прозвішча ў яго было адпаведнае -- Бусел. Машыністка ведала, што казна рашыла правесці трату грошай на транспартоўку таго жаўнера выключна з-за ідэалагічных прычынаў: начальству здавалася, што той жаўнер страшэнны дэсідэнт і пагражае ваяўнічаму духу савецкага імперскага войска. Магчыма яна нават ведала, што ротны старшына атрымаў загад сабраць рэчы жаўнера, каб ягонае выдаленне з казармы адбылося за якую хвіліну і ніхто нічога не заўважыў. І, напэўна, паехаў бы яфрэйтар па слядах Тараса Рыгоравіча, але скумекала начальства, што не за малым светам Форт Шаўчэнка: пакуль туды давязеш ідэёва ненадзейны груз, то, можа здарыцца -- па дарозе звальняць давядзецца, служыць то яму заставалася-кот наплакаўпаўгады.

Беларускія прозвішчы не адно толькі машыністку могуць увесці ў зман. У піянерскім летніку я працаваў з Вожыкам, дзяўчынаю зусім не калючай, быў у нашым атрадзе Чарвяк - вядома ж Чэрвяк! - сімпатычны хлопчык. У розныя часы я вучыўся з Грыбам, Качаном, Казлом і Зязюляю. Грыб і Зязюля былі хлопцамі, а Качан і Казёл (Козел) - дзяўчатамі. Дзяўчынай была і Каваль (Коваль на расейскі манер). З рэшты носьбіты "немілагучных" прозвішчаў прымяняюць маскавальныя сродкі, каб зрабіць іх больш "прыстойнымі" - мяняюць гукі-літары, націскі. Скажам, інспектарка РАА па прозьвішчу Костка завецца не іначай, як Кастко. Праўда, беларускі магнацкі род свае кішкі не мяняў. Князі не саромеліся насіць прозвішча Кішка.

Але пойдзем далей. У школе я працаваў з Жуком, Шпаком і Сарокай. Жук і Сарока былі мужам і жонкаю (адпаведна), Ада Шпак таксама вучыла малых дзетак. Шпакоў сярод нашых вучняў хапіла б не на адну шпакоўню, а вось Гарбар - дзяўчынка была адна, адзін быў і Дудар, як адзін і Салавей сярод маіх цяперашніх вучняў.

З Буйвалам ( Валерам) мы паўначы прагаманілі ў менскім аэрапорце, а Лапатка Яша быў мой найлепшы дружбак. Барсук працуе ў мясцовай краме, а з Пацуком я лячыўся ў адным шпіталі, Заяц паліць нашу вясковую лазню. Скапец быў намеснікам дырэктара па гаспадарцы. Левы выкладаў гісторыю. Стукач - школьная мянушка "Суп" - гаруе на трактары і ўсе ведаюць, што ён "Суп", хоць той даўно не школьнік.

Вярба піша вершы, тое ж робіць і Бондар (Таіса). Колас шматпрофільны - пісаў вершы, узначальвае ліцэй і перакладае з французскай мовы.

А як жа ў іншых народаў?

Ды яны ж, як мы. Латыскі Віліс Лаціс (Мядзведзь) пісаў добрыя кнігі, а беларускі Аляксандр Мядзведзь барукаўся на дыване, як мядзведзь. Мой карэспандэнт у Нідэрландах Саак Бакер - (Пекар), а ірландская сям'я, у якой гасцяваў мой сын, мае прозвішча Бэры (Ягада). Зноў жа латыш Круміньш не што іншае, як "Куст, Корч". Чэскі падпаручнік Дуб дзякуючы Гашаку стаў фігурай легендарнай, партугальскі Карвалью (Дуб) пэўны час быў героем палітычнай сцэны Партугаліі. Пра розных Шмітаў, Шмідтаў, Смітаў, Ковачаў, Кузняцоў, Кавалёў напісана досыць. Здэнек Млынарж (Млынар) - слаўны чэшскі антыкамуніст, а чым займаўся нямецкі Мюлер-усе ведаюць са слыннага кінабаевічка. Амерыканец Генры Мілер пісаў файныя раманы.

Генры Форд (Брод) ведамы ўсім. Джэймс Картэр (вознік) быў прэзідэнтам ЗША, вознікам працуе ў нас Вазнюк, мужчына з суседняй вуліцы. Роберт Фішэр (Рыбак) добра гуляе ў шахматы, галандзкі ж Фісер склаў файны нідэрландска-ангельскі слоўнік. А вось мая аднакурсніца з Ліды Света Рыбак ( яе муж-хлопец з прынёманскай вёскі) амаль зусім не піша мне.

Гары Купер (Бондар) не паэт, а артыст. Соф'я Шах (Цар) з высокага племя паэтаў.

І нарэшце, пра ангельскую графіню "Страхар".

Вы ўжо здагадаліся, хто гэта? Так, гэта яна, легендарная Маргарэт Тэтчар.

Хоць і патрыманую, яе шмат-дзе хацелі б бачыць сваім? сваёй? прэм'ер-міністрам? - міністрыхай? -міністэркай?

Ну, а як жа з тым яфрэйтарам з пачатку нашага аповяду?

Нічога не ведаючы, ён шчасліва даслужыў ва Уруччы і даведаўся пра няспраўджаныя прыгоды ад той машыністкі, што афармляла звальнальныя паперы. Убачыўшы яго, машыністка сказала: "А я думала, што Вы высокі."

Тым маленькім яфрэйтарам быў я,

***Мікола Бусел***
***з вёскі Дуброва***
***Светлагорскага раёна***

# АПОВЕСЦЬ ПРА СЛОВЫ
## Праца, Нож, Сякера, Востры.

Словы, вынесяныя ў падзагаловак зусім не аднакарэнныя і вельмі далёкія па гучанні. Іх лінгвістычнае паходжанне неаднаразова даследавалася.У "Слоўніку іншамоўных словаў" А. Булыкі слова ***праца*** выводзіцца з польскага ***praca***. Расейскі даследчык З. Кабякоў выводзіць слова ***сякера*** ад лацінскага ***сектар*** і г.д.. Разам з тым слова ***праца*** - адно са словаў, якія з'яўляюцца візітнай карткай беларускай мовы і мы проста абявязаны прыглядзецца да яго больш уважліва.

Гняздо слова ***праца*** развіта не вельмі моцна: ***праца***, ***працаўнік, працоўны, працадзень, працавіты, працаздольнасць*** і г.д. Фактычна мы не бачым шырокага разгалінавання і развітых бакавых адгалінаванняў. Чаму? Так бывае, або, калі слова запазычана для абазначэння канкрэтнага прадмета ці з'явы, або, калі яно страціла ці змяніла сваю сэнсавую афарбоўку.

Што мы маем са словам праца. Сказаць, што яно запазычана з польскай, найпрасцей, але мы ўжо неаднаразова паказвалі, што карэнні беларускай мовы найглыбей сыходзяць у даўніну, чым у іншых славянскіх моваў. У беларускай мове няма ні аднаго слова, запазычанага з якой -небудзь славянскай мовы. Наадварот, у большасці славянскіх моваў ёсць запазычанні з беларускай. Таму адкідваем версію запазычанага слова ***праца*** з польскай, як без падстаўную... Пастойце, але, каб такое зрабіць трэба знайсці іншыя падставы. Безумоўна. Таму мы ізноў сыходзім у найбольш даступную для нас глыбіню. Так, ізноў у санскрыт, старажытна-індыйскую мову, якая зафіксавала інда-арыйскія мовы ў акрэсе 1 - 2 тысяч гадоў да нашай эры.

Што ўяўляла сабой праца, працоўны працэс арыяў. О, яны былі высокацывілізаванымі і праца іх была разнастайнай і словаў для яе абазначэння было шмат. Але лінгвістычная памяць арыяў сягала ў часы першапачатковыя, першабытныя, у даўніну дацывілізацыйную. Тады ў аснове працоўнага працэсу чалавека ляжалі паляванне, рыбалоўства і збіральніцтва. Усе яны рэзка адрозніваліся паміж сабой па характару выканання. Пры гэтым збіральніцтва было найбольш нудным і цяжкім, але найбольш надзейным. Менавіта збіральніцтва найбольш адпавядала працоўнаму працэсу. Збіранне, збор (напр. пладоў) на санскрыце — ***pracaya*** *(працая)* або ***pracayana*** *(працаяна)*.

***Pracarya*** — дзейнічаць, дзеянне.

***Praci*** — збіраць, павялічваць.

***Pracar*** — рабіць, здзяйсняць .

Здаецца б і дастаткова. Але заглянуўшы ў санскрыт даводзіцца толькі дзівіцца, якое велізарнае гняздо словаў утворана тут вакол слова праца. Пашукаўшы удаецца знайсці і, мабыць, першаасноўнае ***слова***: ***prac*** *(праш)* — яда, харч (згадаем старабеларускае слова ***брашно*** - *корм*) і другое значэнне гэтага слова — жыць. Вось адкуль паходзіць беларускае слова праца. Словы ***яда, жыць*** і ***працаваць (збіраць, рабіць)*** аднаго кораня.

У гэтым гняздзе і словы ***pracas*** *(прашас)* — кіраваць і ***pracasitar*** *(прашасітар)* — кіраўнік і ***pracastar*** *(прашастар)* — духоўны настаўнік і г.д.

Нашыя прашчуры звязалі ўсю навуку, усё кіраўніцтва не з вайной, а з працай. Старажытнае слова ***кіраўнік*** абазначала тога, хто кіруе працай, навучае працы.



Разгляд усяго гэтага гнязда словаў цягне на вялікі артыкул. Таму мы большасць з адгалінаванняў пакуль апусцім і спынімся толькі на адным: ***pracas*** *(прашас)* — сякера, нож. Так, першыя прылады працы таксама атрымалі назву з гэтага гнязда. Чым працуюць - ***прашас***. А першыя прылады працы былі менавіта нож і сякера.

Удасканаленне прыладаў працы надавала ім новыя рысы і адпаведна новыя назвы.

***Castra (шастра)*** — нож,кінжал, зброя. Нам дасталася адсюль слова ***востры***. А само слова ***castra*** усходзіць да слова ***cas (шас)*** — рассякаць. Адсюль нам дасталося слова ***шашка***, кавалерыйская шашка, якой сякуць. (Дарэчы словы адрэзаць, парэзаць — на Беларусі дагэтуль выражаюць словамі ***шаснуць***, ***пашастаць***).

Завостраны на санскрыце мае значэнне і ***saqra (сагра)***.

***Sahta*** — прыліпшы, злучаны, сувязь, злучэнне

***Sankara (санкара)*** — разразаць, рассякаць. У многіх месцах Беларусі да гэтага часу кажуць ***сакера***. Такім чынам мы знайшлі ў санскрыце ўсе словы, якія шукалі і паказалі іх сувязь.

Больш таго мы яшчэ раз пераканаліся, што і санскрыт толькі прамежкавая стадыя у развіцці беларускай мовы. Раз-пораз мы выходзім у часы больш старажытныя аж да першабытнага грамадства, да збіральніцтва.

***Станіслаў Суднік.***

**Часовы выканаўца абавязкаў рэдактара Станіслаў Суднік**

*Заснавальнік:*
ТБМ імя Францішка Скарыны.
*Пасведчанне аб рэгістрацыі:*
№ 83 ад 28 чэрвеня 1996 г.
*Адрас рэдакцыі:*
220005, г. Менск, вул. Румянцава, 13.
*Адрас для паштовых адпраўленняў:*
231300, г. Ліда-2, п/с 7.



*Аўтары нясуць поўную адказнасць за падбор і дакладнасць прыведзенай інфармацыі.*

Газета надрукавана ў Лідскай друкарні ўпраўлення грамадска-палітычнай інфармацыі і друку Гродзенскага аблвыканкама.
231300, г.Ліда, вул. Ленінская, 23.
Кошт па дамове.Газета падпісана да друку 16. 03. 98 г.
Наклад 3500 асобнікаў. Замова № 851.
***Падпісны індэкс:*** 63865.
***Кошт падпіскі:*** 1 мес.- 12 000 руб., 3 мес.- 36 000 руб.